Berlin, 11. Juni 1944 Nr. 23-24/185-186

# РАНІЦА

„RANICA“
Weißruthenische Zeitung in Deutschland
„Der Morgen“

БЕЛАРУСКАЯ ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

Год выданьня 6. Цана/Preis 20 Pf.

Адрыс рэдакцыі: «Ranica», Berlin NW 21, Stromstr. 67. Тэлефон 393429. Падпіска разам з перасылкай на год — 10 RM, на паўгоду — 5 RM, на 3 мес. — 2,50 RM. Газэта ўцягнутая ў паштовы сьпіс газэт — Postzeitungsliste für 1944, Nachtrag 4, — і падпіска на яе прымаецца кажным паштовым урадам.

БЭРЛІН
Нядзеля, 11 чэрвеня 1944 г.

Verlag »Ranica«, Berlin NW 21, Stromstr. 67. Telephon 393429. Bezugspreis mit Zustellgebühr für 1 Jahr 10 RM, für 1/2 Jahr 5 RM, für 1/4 Jahr 2,50 RM. Zu beziehen durch jedes Postamt. Verzeichnet in der Postzeitungsliste für 1944, Nachtrag 4. Postscheck: Berlin 215995, »Ranica«, Weißruthen. Zeitung in Deutschland.

## Зацятыя баі супраць інвазійных аддзелаў у Францыі

Амаль ад году пачалася гутарка і падрыхтоўка да інвазіі. Насупроць усіх засадаў стратэгіі ангельска-амэрыканскае камандваньне ня толькі што ня скрывалася із сваімі намерамі, а наадварот усімі сіламі намагалася аб гэтым трубіць ня толькі перад сваімі грамадзянамі, але нат і за граніцай.

Мэта гэтага ўсяго была ясная. Ворагі хацелі страхам пахіснуць абаронную маральнасьць нямецкага жаўнера і народу. Калі сутнасьць гэтае рэчы ня толькі што не асягнула пажаданых посьпехаў, а наадварот яшчэ выклікала толькі нэрвовую сытауцыю ўнутры самых альянтаў, тады дзеля апраўданьня прад собскім жыхарствам трэба было ў канцы прыступіць да акцыі.

Супакой, з якім прыняў нямецкі народ афэнзыву нэрваў, і супакой, з якім цяпер прыняло галоўнае нямецкае камандваньне поўную баёвую акцыю інвазіі — ўсё паказвае на тое, што для немцаў ня было гэта неспадзяванасьцяй, а зусім пэўным матэматычным аблічэньнем. Ведаючы дакладна сілы ворага і свае магчымасьці, нямецкае камандваньне сваёй дасьведчанай стратэгіяй толькі і чакала гэтага мамэнту. Яно ведала што з ім набліжаецца вырашальная гадзіна гэтае вайны, чаго альянты так доўга высьцерагаліся.

Уверанасьць у собскія сілы дала нямецкаму камандваньню і цэламу народу гэты супакой. Ён і будзе асноўнай рыскай у цяперашнім змаганьні на францускім ўзьбярэжжы.

З гэтае падставы і выйдзе сіла, якая зможа прыстасавацца ў кажнай сытуацыі. Асьведчаньні ваенных нямецкіх крытыкаў, як і палітычных спэцыялістых, у інвазіі бачаць сьмяротны пуск крыві для самаго ворага.

*

Распачалася атака ня толькі на Нямеччыну, але і на ўсю Эўропу. Да бальшавіцкага барбарства з усходу далучылася цяпер заходняе барбарства жыда-плютакратыі, якое мы няраз ужо мелі нагоду пазнаць па мэтадах нялюдзкага разбурэньня гарадоў, і што найбольш ярка можна наглядаць на апошнім выпадку з Рымам.

У гэтым змаганьні за Эўропу Нямеччына не зьяўляецца адзінокай. Побач яе дзяржаўных саюзьнікаў стаяць прыхільныя ёй і вызваленыя ёю з ярма прыгону іншыя нацыі, якія ў перамозе Нямеччыны бачаць сваю будучыню.

Усе народы ўсходу, вызваленыя Нямеччынай, пачаўшайся атакай англа-амэрыканцаў на захадзе ня толькі ня хістаюцца ў сваёй пастанове, а наадварот, у сваім змаганьні з бальшавізмам яшчэ больш умацняюцца, гатовыя да кажнага ўдзелу і ахвяраў памятаючы аб тым, што заходнія падзеі і ўсходні фронт—гэта іх жыцьцёвы абавязак і неабходнасьць змаганьня за сваё існаваньне.

Таму побач іншых нашых суседзяў, якія з ружжом у руцэ выступілі да змаганьня, як украінцы, латышы, ці эстонцы — гэтаксама і беларусы, сёньня стаяць на ўсходнім фронце ў вабароне Эўрапэйскае культуры.

Гэтаксама і мы працоўныя прымаем удзел у гэтым змаганьні. Нашай працай павялічваем мы Эўрапэйскі патэнцыял абароны Эўропы. Наша служба ня менш важная ад жаўнерскай, таму памятаймо заўсёды, што і мы зьўляемся актыўнымі ўдзельнікамі гэтага змаганьня, і нашым абавязкам ёсьць сумленная і ахвярная праца.

У кажнай вайне, апрача духа і характару, вырашаючым дзейнікам зьяўляецца ўзбраеньне. Адносна духа і характару эўрапэйскія народы маюць сваю традыцыю і аб тэтым ня прыходзіцца клапаціцца.

## Англа-амэрыканцы высадзіліся на берагох паміж Ле-Гаўра і Шэрбурґам

Бэрлін, 6-га чэрвеня 1944 г.

Высадка ангельцаў і амэрыканцаў на паўночнае францускае ўзьбярэжжа, якая чакалася на працягу доўгага часу, пачалася мінулай ночай. Некалькі мінутаў пасьля поўначы вораг прадпрыняў моцнае бамбардаваньне бухты Сэквана. Крыху пазьней, пры падтрымцы артылерыі цяжкіх і лёгкіх ваенных параплаваў, шматлікія дэсантныя лодкі прабіліся і да іншых адрэзкаў берагу.

Абарона нямецкіх аддзелаў ня была захопленая гэтай падзеяй зьнянацку. Яна адразу-ж, з усёй энэргіяй, уключылася ў змаганьне з ворагам. Паветраныя дэсантныя аддзелы ворага ўжо пры высадцы часткава сталіся захопленымі, а параплавы ворага, яшчэ далёка ў моры, былі ўзятыя пад зьнішчальны абстрэл. Шматлікія аддзелы парашутыстых або ў той-жа час, як прызямліліся, лучылі ў нямецкі палон, або загінулі ад расстаноўленых мінаў.

Нягледзячы на цяжкія атакі ворага з паветра і артылерыйны абстрэл з параплаваў, нямецкая абаронная артылерыя Атлянтыцкага валу адразу-ж ўвязалася ў зацятае змаганьне.

Параплавы і замаскаваныя штучным туманом высадкавыя лодкі ворага былі спатканыя трапным адпорным вагнем.

Баі супраць інвазійных аддзелаў разгортваюцца ўсё больш.

## Яны будуць горача прынятыя

(Гутарка з дзяржаўным кіраўнікам прэсы др. Дытрыхам)

Бэрлін, 6-га чэрвеня.

На запытаньне нямецкае прэсавае агенцыі, ў сувязі з пачаткам інвазіі, дзяржаўны кіраўнік прэсы др. Дытрых сяньня раніцай паведаміў наступнае: «Сяньня раніцай нашыя праціўнікі на захадзе распачалі свой крывавы для сябе-ж паход, якога яны гэтак доўга высьцерагаліся. Даўно ўжо задуманая атака заходніх ворагаў на вольнасьць Эўропы, пачалася. Мы сустрэнем іх горача. Нямеччына ўсьведамляе важнасьць гэтае гадзіны. За Эўропу будзе праводзіцца змаганьне з ўсёй сілай і рашучасьцяй каб абараніць культуру і жыцьцё яе народаў прад ударам барбарства».

## На загад Фюрэра нямецкія аддзелы пакінулі Рым

Галоўнае Нямецкае Камандваньне ад 5-га чэрвеня 1944 г. падае:

З прычыны таго, што ваенныя падзеі набліжаюцца штораз бліжэй да Рыму, заіснавала небясьпека ўцягненьня гэтага найстарэйшага культурнага цэнтру сьвету ў непасрэдную баявую акцыю. Каб гэтага ўнікнуць Фюрэр загадаў нямецкім аддзелам адступіць на паўночны захад ад Рыму.

Баі ў Італіі будуць прадаўжацца з непахіснутай воляй і з мэтай заламаць атакі ворага і супольна з саюзьнікамі асягнуць перамогу. Для найбольш цеснага супрацоўніцтва з фашыстоўскай Італіяй і іншымі саюзьнікамі Нямеччыны, будуць створаны адпаведныя ўмовы. Год інвазіі прынясе ворагам на рашаючым месцы аканчальнае паражэньне.

## Генэрал Александэр сабатуе ахову Рыму

Бэрлін 5-га чэрвеня 1944.

Галоўная Кватэра генэрала Александэра і маршала Бадоліё выдала гэткую праклямацыю да жыхарства Рыму:

Жыхары Рыму! Альянскія арміі набліжаюцца да Рыму. Падтрымвайце альянтаў, змагайцеся супраць агульнага ворага — Нямеччыны і фашызму. Паведамляйце пра мінавыя загароды і іншыя вайсковыя ўладжаньні ворага, каб альянты маглі здабыць ваш горад бяз стратаў часу, людзей і матар'ялу.

### КАМАНДЗЕРЫ ІТАЛЬЯНСКІХ ДЫВІЗІЯЎ ДА ДУЧЭ.

Каманьдзеры рэспубліканскае арміі, якая знаходзіцца на вышкаленьні ў Нямеччыне, пераслалі Мусаліні гэтакае асьведчаньне: «Дучэ! Падзеі, якія гэтак даткнулі пакрыўджаную бацькаўшчыну, належаць да гісторыі ўчарашняга дня. Яны зьяўляюцца трагічным вынікам зрады. Мы зьяўляемся гісторыяй будучага дня; мы зьяўляемся вызваленьнем, якое ёсьць у падрыхтоўцы. Чым глыбейшы ёсьць заняпад, з якога мы мусім паўстаць, тым больш спакойнай і рашаючай ёсьць наша воля. Кажны мамэнт нашае цьвёрдае і ўважлівае варты, набліжае час адплаты і перамогі. У гэтым падрыхтоўваем мы тут, у краіне нашага вялікага саюзьніка, магутную зброю і верныя сэрцы. Рыму, Дучэ і Італіі зьвернем мы славу зброі, а Італьянскаму народу бясьпеку ягонае будучыні.



Абароннае змаганьне ў поўным разгары.
Жаўнеры з дывізыёну «Гросдойчлянд» ачышчаюць мясцовасьць ад ворага

## Адказнасьць за Рым

Нямецкія прапановы ўсьцярагчы Рым

Нямецкае Галоўнае Камандаваньне з Квартэры Фюрэра ад 5-га чэрвеня 1944, паведамляе:

Галоўны камандваючы нямецкімі аддзеламі ў Італіі генэрал-фэльдмаршал Кэсэльрынг 3-га чэрвеня а 3 гадзіне, праз нямецкага пасланьніка пры Ватыкане зьвярнуўся, каб той перадаў ангельска-амэрыканскаму галоўнаму камандваньню наступныя прапановы паводля якіх з абодвух ваюючых бакоў мелася прызнаць Рым адкрытым горадам:

1. Ваюючымі старонамі Рым будзе прызнаны як адкрыты горад.

2. Граніцамі адкрытага гораду будуць: Паўлё (з выняткам чыгуначнае лініі на поўнач ад Паўлё да Піяцца) Маггёрэ — лінія ад Піяцца Маггёрэ (з выняткам чыгуначнае лініі і Станцыёнэ Тібуртына на ўсход ад Більля Хібі). Ад Більля Хібі да Калена Тыбру і паўтара кілёмэтры на паўдзённы захад ад Торэквінто — на поўдзень ад Тыбру (ўлучна) да мосту Мільзыё — заходняя мяжа Ватыкану — Порта Панкрацыё (вылучна) із станцыяй Трастэвэрэ — Понтэ Субліцыё (вылучна) — на ўсход ад берагу Тыбру — Портэ Паўлё (вылучна).

3. Паасобныя пастановы:

а) Нямецкае вярхоўнае камандваньне, як і дасюль, забавязваецца ў адкрытым горадзе ня трымаць ніякіх аддзелаў, ні ваенных уладжаньняў, як і не праводзіць ніякіх маршаў войск.

б) Вылучаюцца з гэтага, толькі тыя ўстановы і паліцыйныя сілы, якія зьяўляюцца неабходнымі дзеля ўтрыманьня супакою, парадку і забясьпечаньня гораду.

в) У нутры адкрытага гораду ня будзе праводзіцца ніякіх зьнішчэньняў.

д) Запасы харчаваньня застаюцца вылучна для цывільнага жыхарства.

е) Гэтаксама пры накіданьні гораду нямецкімі аддзеламі будуць захованы электрычныя і водныя ўладжаньні гораду ў іх дасюляшнім стане,

4. Варункам на перабраньне гэтых забавязаньняў нямецкім камандваньнем зьяўляецца неабмежаваная гарантыя рэваньшу.

Апрача гэтага галоўнакамандваючы нямецкімі аддзеламі прапанаваў, каб Ватыкан быў перададзены з адпаведнай кантроляй на аснове існуючых адпаведных адносінаў.

На прапановы з боку ангельска-амэрыканскага камандваньня ніякага адказу — не паступіла.

Замест гэтага генэрал Александэр выдаў праклямацыю да жыхароў Рыму, у якой заклікае да збройнага выступленьня супроць нямецкіх аддзелаў.



Ні цёмная ноч, ні хмарнае неба ня можа ўкрыць тэрарыстычныя самалёты ворага ад гэтага «магнітнага вока» нямецкай процілятунскай абароны. Гэты апарат заўсёды дакладна паказвае кірунак, вышыню і шлях варожых самалётаў у паветранай прасторы.

# Памяці Івана Харлапа

1-га сакавіка споўнілася 20 гадоў ад таго часу, як у Дзьвінску памёр адзін із піянэраў беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху ў Лацьвіі, былы кіраўнік 2-й Дзьвінскай асноўнай школы Іван Харлап.



Нарадзіўся І. Харлап 25-га жніўня 1871 году на Віленшчыне, у вёсцы Дразды, Вяйстомскай воласьці Сьвянцянскага павету. Пачаткавую адукацыю атрымаў у вясковай школе, а пасьля ў Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі, якую скончыў у 1891 годзе. Па сканчэньні сэмінарыі, у тым самым годзе ўвосені пачаў сваю настаўніцкую працу ў Латыгольскай школе ў Вязынскай воласьці, Вялейскага павету, а пасьля трапіў у Дзьвінск.

У беларускі нацынальна-адраджэнцкі рух ён увайшоў у 1921 годзе, ужо пад канец свайго жыцьця. 30 гадоў адпрацаваў ён за настаўніка ў расейскіх школах, але любасьць да роднага народу ня згасла ў ім. І калі ў 1921 годзе пачалася беларуская нацыянальная праца ў Дзьвінску, ён першы із старых дзьвінскіх настаўнікаў-беларусаў актыўна ўвайшоў у працу, стаў на чале новазакладзенага ў Дзьвінску Беларускага культурна-асьветнага таварыства «Бацькаўшчына», аддаў сваю кватэру пад канцылярыю Таварыства, а ў памешканьні ягонае школы на Віцебскай вуліцы № 16 адбываліся сходы сяброў і бацькоў беларускіх дзяцей ды пачалі сваю працу Беларускія настаўніцкія І-гадовыя курсы.

Розныя няпрыемнасьці і варожыя напады з боку расейцаў і палякаў прыгнятаючы дзеялі на І. Харлапа. Ён моцна захварэў і зусім нечакана 18-га сакавіка 1923 году памёр. 20-га сакавіка беларускае грамадзтва зь вянкамі і краскамі праводзіла свайго першага старшыню «Бацькаўшчыны» на праваслаўны магільнік у Дзьвінску і ўздзячнымі прамовамі адзначыла ягоную шчырую працу.

**К. Ез.**

# З культурнага жыцьця

## МУЗЫЧНАЯ ШКОЛА Ў МЕНСКУ

У хуткім часе ў Менску будзе адчынена Музычная Школа. Гэткім чынам, дзеці беларускага народу, які стварыў багацейшую скарбніцу песьняў, на васнове якіх расьцьвіла сяньня ўся прафэсійная творчасьць, атрымаюць магчымасьць сыстэматычна і ўсебакова разьвіцьця сваіх музычных здольнасьцяў у галіне народных інструмантаў, фартэп'яна, іскрыпкі, віёлёнчэлі, сьпеваў.

Улічваючы вялікую патрэбу ў прафэсійных кіраўніках харавых гурткоў, — пры школе будзе адчынена харавая інструктарская кляса, а таксама і кляса балетная, якая дапаможа здаволіць моцную цягу дзяцей да танцаў, выявіць паміж імі здольных будучых прафэсіяналаў.

Вялікія арганізацыйныя цяжкасьці, якія паўсталі ў сувязі з адчыненьнем школы — пытаньне памешканьня, музычных інструмантаў, складу настаўнікаў і іншыя, ужо можна лічыць вырашанымі.

## СПРАВА ТЭАТРУ Ў БЕЛАСТОКУ

Беларускае Аб'еднаньне ў Беластоку робіць захады, каб зарганізаваць сталы Беларускі Тэатр у Беластоку, які будзе абслугоўваць і правінцыю. Сталую працу сярод беларускага жыхарства могуць вясьці аднак толькі мясцовыя сілы. Таму для лепшага наладжаньня гэтае справы Беларускае Аб'еднаньне ў Беластоку мае намер у хуткім часе праводзіць курсы для кіраўнікоў драматычных гурткоў і аматарскіх хораў.

**ЛАРЫСА ГЕНІЮШ**

# *На парозе бацькаўтчыны*

**Я іду нецьвярозай хадою,**
**на нагах — пыл вялікіх дарог.**
**Паўстае, быццам сон, прада мною**
**каласістае збожжа ў палёх.**
**Штосьці ўдарыла ў грудзі прыбоем,**
**шапку ціха з чупрыны я зьняў,**
**пакланіўся разгойданым хвоям**
**і сьлязой родны край прывітаў.**

**Ды прыпаўшы да чыстай крыніцы,**
**гэтак нізка я голаў схіліў,**
**што грудзямі нат мог прытуліцца**
**да пахучай радзімай зямлі.**
**Пах баразнаў пагораных чую,**
**ціхі жаль праступае з нутра,**
**быццам маці я гладжу старую,**
**ці мяне туліць-песьціць сястра.**

**Борзда ўстаў я, а поле ў красках**
**і насустрач ка мне зазьвінеў**
**рэхам сьвежай вясьнянае ласкі**
**нейкай дзеўчыны гожае сьпеў.**

**І ўзьняўшы, як красачка, голаў**
**у ваччу маіх радасных сьлёз**
**усьміхнулася ціха і квола**
**з-пад бялявых заплеценых кос.**

**Мой каптан быў падзёрты, убогі,**
**рвала бура яго ці адна...**
**Я спытаўся: «Кудэю дарога?»**
**Неяк ціха сказала: «Ты наш?»**
**«Шмат дарогаў ляжыць прад табою,**
**розны іхны кірунак і бег,**
**ды якою ня пойдзеш сьцягою**
**ўсюды шчыра спаткаюць цябе.**

**Быццам птушак з далёкага краю,**
**напярэдадні яснай вясны**
**Беларусь, наша Маці, вітае**
**ўсіх, што ёй дарагія сыны».**
**Я іду да тых стрэх саламяных,**
**чую крыльле, як быццам-бы птах.**
**Рад бярозаў ад гоняў аўсяных**
**мне вясёлы паказвае шлях.**

Вольная Трыбуна

# Не кладзеце пальца ў рот

**(Памфлет старога «ворага народу»)**

Памфлет (ад «palmae feuillet» — «лісток») — літаратурны твор публіцыстычнага характару, у вадрознасьць ад фэльетону (ад таго самага «feuillet») заўсёды едкі, безаглядны, зьнішчальны.

## ЛІСТОК ПЕРШЫ

### Даведка на ўсялякі выпадак
### Ад сабакі

У 1928 г. адзін наш паэта надрукаваў свае «Лісты да сабакі.

Мы былі ягонымі сучасьнікамі й суперажывальнікамі, а некаторыя й больш.

Мы добра памятаем, які гвалт узьнялі тады вакол гэных «сабачых лістоў» вы, бальшавікі. Бальшавікі партыйныя й «непартыйныя», адкрытыя й сукрытыя. Бальшавікі й бальшавізаны.

Але, дай Божа, памяць, не забылася, яшчэ, як захоўваліся й некаторыя з вас, даражэнькія сяброчкі ў беларушчыне. З тых, што жылі (і цяпер яшчэ пражыць хочуць) ад прашчураў адказаным: «Абы ціха»... «Абы пакультурнаму»... «Абы пасямейнаму»... «Абы не зарэзка, абы не завойстра»...

(Чэхаўска — «футаральнае»: «Абы чаго ня выйшла»).

Але, вы, каго назавом сяньня — чыста ўмоўна! — «меншавікамі»...

Вы, здаецца, таксама былі крышку шакаваныя. Паэта піша лісты... да сабакі!.. І піша да сабакі, як да сябра. Мала — як да блізкага, да дарагога. Паэта цалуе... сабаку! Ці не «загруба»? Ці не занадта «някультурна», «не эстэтычна»? Што скажуць дзядзькі, што скажуць суседзі? «Ці не зарэзка, ці не завойстра»?

Паэта жыў тады ў Ленінградзе.

Жыву цяпер я ў шумнаі сталіцы,
Далёка ад цябе, мой дружа..

(Nota bene: «Дружа» — ... сабака! «Ах, які пасаж!»).

У тым самым Ленінградзе, што быў Петраград, Пецярбург. Дзе калісь Пётра «прасек вакно ў Эўропу». Кудэю, як хочуць аж сяньня запэўніць, і для нас, грэшных, — для нас, беларусаў — «карацейшы шлях»... на Захад (якраз, як тая бабулька малілася: «... і ступіў да пекла, бо падарозе было»...).

Адтуль, з гэнага «карацейшага шляху», з-пад таго «вакна», не адрываўся глядзець паэта назад, на свой родны край. Выглядаў напружана, «ці хто пастукае ў вакно»... Ды бачыў — адны ланцугі. Ды знаходзіў аднаго толькі вернага сябру, аднаго толькі — сабаку. І яму пісаў:

... Ніхто, ніхто... Закуты ланцугамі...
Хтось рукі заламаў у далях сініх...
**Вартуй, вартуй свой родны ганак —**
**Пішу аб гэтым я табе з Расіі.**

Вы, бальшавікі, старэнна ўдавалі тады, што навет ані не заўважаеце гэтае, найкрасамоўнейшае мясьціны. Што не яна гэта наймацней узьюшыла вас. Не яна, а яўнае упадніцтва», «схаванае кулацтва», «замаскаваная клясавая варожасьць»...

Ну, а вы, нашыя і наскія, вы даражэнькія сяброчкі — «меншавікі» і «культурнікі», вы — ці заўважылі гэта? Ці задумаліся над гэтым тады? Ці зразумелі, каму гэная прарочая перасьцярога:

Пішу аб гэтым я табе з Расіі?

Ці адчулі, хто гэта павінен стаць на варце «роднага ганку», на варце, прост пасабачаму вернай, пасабачаму пільнай і пасабачаму-ж зацятай?

Ці здаўмеліся, да каго п'юць, і ці сказалі хоць — «будзь здароў»?

**Бо гэта-ж да нас, да нас усіх было.**

Гэта мы ўсе тады мусілі абняць такую варту. Сабачую варту. Пілнаваць удзень і ўначы. Пілнаваць хату нашага Гаспадара, «вуглоў каб не разьнесьлі людзі вуліц». Бо што будуць, зараз пачнуць расьцягаць іх — тады ўжо відаць было гэта, тады перасьцерагалася «аб гэтым... з Расіі».

Гэта мы ўсе тады мусілі нажыць сабе нейкае шостае пачуцьцё. Пачуцьцё, роўнамоцнае ў вайстрыні сваёй таму сабачаму нюху. **Пачуцьцё ворага.**

Гэта мы ўсе тады мусілі, няхібка й адразу пасабачы «зьнюхаўшы» тым пачуцьцём ваўка, хоць і ў якой, хоць і ў авечай скуры, — адразу-ж і кідацца на яго. Кідацца, шкуматаць і рваць, браць «мёртвым хватам». Кідацца, хай і «някультурна», «неэстэтычна», хай і «груба», «зарэзка й завойстра» — ведама, пасабачы...

Гэта мы ўсе тады, у вабставінах сыстэмы, якая закоўвала ланцугамі чалавека, змагалася на зьнішчэньне з чалавекам — мусілі й маглі захаваць сваю чалавечую ды нацыянальную годнасьць толькі стаўшыся вернымі сабакамі — вартавымі й абаронцамі — адзінага й запраўднага Гаспадара.

Мы мусілі, мы маглі й мы сталіся. Ці ўсе ткі?

Не, ня ўсе. Ці не найбольш засталося тады ў першым радку:

... Ніхто, ніхто... Закуты ланцугамі..

Найвышэй — уздымаліся да другога:

Хтось рукі заламаў у далях сініх..

Здаецца, і вы, дарагія сяброчкі — «меншавікі», «культурнікі» — апынуліся тады тут. Тут, «у далях сініх», «заломвалі рукі»...

Адны — з маленьнем аб чашы на вуснах: «Да мимо идетъ менѣ чаша сія, но не какожде аз хошу — какожде Ты»... Гэта— з вас найлепшыя, найшчырэйшыя сыны.., Асабліва тыя, што й выпілі чашу (а шмат хто — і па кроплі) — дадна.

Другія — маліліся проста, паўшы на калены: «Пашкадуйце! Зьлітуйцеся!» Слабыя духам! «Да мимо идеть» іх нат успаміц наш сяньня...

Трэйція — заломвалі рукі, усё «культурна» пераконваючы, «даводзячы», правуючыся, калі ад зладзейства й блізка ня былі. Такіх сярод вас было бадай найбольш. Шмат і пасвойму паравістных. Навет, топленыя, з вады паказвалі два пальцы: «стрыжана, а ня голена!»

Што-ж, магчыма, і гэта гэройства. Але— ці пераканалі, ці «давялі»?

Давялі — самі сябе й хто да чаго: хто— «да сьценкі», хто — «да ручкі», хто — да торбы.

І нас, што не здрыгануўшыся пайшлі на «сабачую службу» роднаму краю — так мала, зусім мала тады было. І так лёгка было даць з намі рады — вам, бальшавіком.

Найлягчэй і адразу — злаяць: сабакамі. Самі-ж напрасіліся.

Але, напрасіліся, і лаянку навет із гонарам прынялі. Горда сьцьвердзіў паэта сам:

... паэтам стаў сабачым...

Але, ганарыліся навет гэтым.

... А тады — гіцлі вашыя лёгкія — па адным — пералавілі нас і ў буду сваю паўкідалі. Толькі сабачымі хітрыкамі ўдалося вылузацца сяму-таму з-пад вашай «пільнасьці» гіцля-бальшавіцкай. Толькі адзінкам пашчасьціла высьлізнуць з-пад самае жывадзёркі і — зноў на службу Гаспадару. Гаспадару, якога — бяз нас —

вялікіх партытураў нярэдка зьяўляецца іхным вонкавым прыборам, за якім не знаходзіш выстачальна глыбокага зьместу. Добрых замыслаў і тэхнічнага ўмельства мала на тое, каб напісаць запраўды манумэнтальную сымфонію ці опэру». З гэтым, пэўна-ж, можна толькі згадзіцца. Але нам, грэшным, здаецца, што яшчэ канечнейшай перадумовай запраўднага «манумэнталізму», чымся той «замысел глыбака ідэйны й рэалізаваны», які аўтары ўважаюць тут за панацэю ад усіх злыбедаў, найпершаю перадумовай яго можа быць толькі тая **свабода творчасьці мастака,** нязьвязанасьць вымаганьнямі «заказу», «дырэктывы» й страхам «оргвывадаў», аб чым мы пісалі на пачатку. Тут, мы цьвёрда пераканаyя, «увесь сабака закапаны», як кажуць, і над гэтай ягонай магілай колькі «манумэнтаў» ня стаў, будзе ўсё паўтарацца бясконца таксама, як у ведамым: «у папа ды быў сабака, поп яго любіў, ён ізьеў кавалак мяса, поп яго забіў, памятнік паставіў і надпіс напісаў, што ў папа ды быў сабака» і г. д, і г. д.... Будзе ўсё той самы «няглыбокі зьмест і несамастойнасьць музыкі», як у сымфоніі нумар 5 В. Жалабінскага на «дырэктыўную» тэму абароны Ленінграду, ці «нястача канструкцыйнае суцэльнасьці формы, мэлёдычнае шырыні й напеўнасьці», як у С. Пракоф'ева, ці «неадпаведнасьць тэмы й ейнага ўцелаўленьня», «няроўнасьць і выяўная недапрацаванасьць», як у М. Каваля...

І ня будзе, напэўна ніколі ня будзе, тае «народнасьці» музыкі, на якую кладуць такі націск аўтары. Праўда, у іхным разуменьні паняцьце гэтае народнасьці дзівосна пашыраецца: **«Народнасьць савецкае музыкі — гэта** таксама ейная арганічная **сувязь** із музычнай клясыкай народаў СССР і насамперш — **ізь вялікай клясычнай культурай расейскага народу».** Ды дарма, што такое арыгінальнае разуменьне, навет пры ім даводзіцца із сукрухай ківаць галовамі: «Глыбака памылковае **грэбаваньне некаторых кампазытараў народнымі вытокамі музыкі.** Бяз сталага, жывога кантакту з народным мэлёсам музычнай мове кампазытара, ягоным творчым шуканьням пагражае небясьпека ператварыцца ў няжывыя абстракцыі. Разам із тым высокае паняцьце народнасьці музыкі часам прыбядняецца, яго зводзяць толькі да цытаваньня фальклёрных інтанацыяў» ... Запраўды—дакука: у краіне, дзе так складаецца цяпер на ўсе склоны забаронены раней «народ» — знаходзяцца «некаторыя кампазытары», што «грэбуюць народнымі вытокамі», «прыбядняюць»... Што-ж, застаецца толькі «оргвывад»: «а падаць іх сюды», гэных «некаторых»!...

Думаем, што гэтыя прызнаньні будуць дужа цікавымі нашым кампазытарам, для якіх народнасьць у запраўдным сэньсе гэтага слова, без усякіх вялікадзяржаўніцкіх «сувязяў» — і сяньня адзіная ды такая пладаносная стыхія іхнае творчасьці. Але ня менш цікавым як для нашых музыкаў, гэтак і для ўсяе грамадзкасьці, павінна быць наступная канстатацыя фактаў: **«Зварачае на сябе ўвагу аставаньне некаторых жыцьцёваважных жанраў музыкі, насамперш — опэры. Дасюль няма ў нас новай опэры, якая трывала ўвайшла-б у рэпэртуар тэатраў, сталася-б улюбецкай нашага слухача»** — і крыху далей: **«Дужа слабую актыўнасьць выяўляюць нашыя опэрныя тэатры ў стварэньні новых опэраў. Тэатры мала рупяцца навет пра тое, каб сваячасна паказаць ужо гатовыя партытуры вялікіх майстроў»...**

Навет із песьняй ня зусім усё добра ў савецкіх музыкаў... «Новы этап вайны — этап пераможнага наступу чырвонай арміі — не знайшоў яшчэ годнага выразу ў нашай песьні. Стварэньне магутных песьняў перамогі, песьняў славы савецкага народу — дабрародная задача, яна ня можа не натхніць савецкіх кампазытараў і паэтаў. Ваенныя камісіі саюзу кампазытараў і саюзу пісьменьнікаў занадта мала яшчэ зрабілі для тагэ, каб задзіночыць высілкі музыкантаў і паэтаў у працы над песьнямі».

Запраўды, відаць, дрэнь паперы, калі ўжо трэба «задзіночваць высілкі» — для творчасьці! — бадай, ці дадуць тут рады ўсе камісіі і саюзы, якія ніколі ня мелі й цяпер, пэўна-ж, ня маюць ніякае іншае ролі, як толькі быць бюракратычнымі путамі, накіданымі на вольнае натхненьне мастака. Мабыць, мала натхняюць на «магутнасьць» і «славу» купленыя цаною мора крыві, гораў трупаў і надлюдзкіх высілкаў усяго жыхарства перамогі...

Усё гэта, успомніўшы яшчэ раз пра той маштаб параўнаньня, перадумаюць, напэўна, і нашыя кампазытары, і музыкі, і проста грамадзяне. Зрэшты, свой выбар яны даўно зрабілі і ў гэтым ня каюцца, пэўна-ж...

Мы можам ганарыцца тым, што стварыла за ваенныя гады нашая беларуская музыка. І ня можам не цаніць таго, што дало ёй магчымасьць зрабіць усё гэта, таго, што ўва ўсіх краёх сьвету, за выняткам аднагоадзінага, становіць само сабою зразумелую перадумову ўсякае творчасьці — **свабоды творцы.**

Запраўды, застаецца толькі ўспомніць няўмірушчыя словы сэрвантэсаўскага Дон-Кіхота:

— Свабода, браце Санчо — вялікая рэч!

вы ўправіліся ўжо і з хаты собскае выгнаць, і ў прочкі, у сьвет сагнаць...

Яму служым і сяньня. І ў ранейшай сваёй якасьці. І з гордасьцяй тэй самай..

Пільна — на варце. Нюхам — за ветрам: хто чужы, а хто свой.

А ворага — проста за горла: паранейшаму «груба» і «някультурна».

Можа навет — «нацыянальна па форме». Гэткімі-ж і вы дазвалялі быць.

Бо і сабакі-ж — рознай «нацыянальнай формы». І нашых ад вашых яшчэ калісьці, у «Нашай Ніве», Ядвігін Ш. адмежаваў».

«Пёс твой Васька государеву руку лижет» — у нашай «форме» гэткіх ня было. Гэткія — «псы» — як і ўсе вы — «чэрці ня нашага Бога».

Бог у нас свой і свой Гаспадар. Ім служылі й служым, служым і будзем гэтак служыць.

Служым і будзем гэтак служыць, пакуль «чужыя людзі ходзяць каля ганку». Чужыя людзі, а старыя знаёмыя: вы, бальшавікі.

Служым і будзем гэтак служыць — да апошняга дыху.

## ЛІСТОК ДРУГІ

### Народ, «народ» і «Народ».

... А пасьля вы, бальшавікі, менавалі нас вышэй: «ворагамі народу».

Гэта было адразу-ж пасьля таго, як дасталі й толькі ад пылу абцерлі самы гэны «народ». Выкінуты, валяўся дагэтуль у вас, разам зь іншымі абразамі, на сьметніку. Вы казалі навет — на сьметніку гісторыі. Выкінуты, казалі, як «клясава неаднастайны», «буржуазны фэтыш».

Вы хапіліся былі тады за сьметнікі. «Утыль-сыравіна». Утылізаваць-жа можна й фэтыш: таксама рэч.

І ўтылізавалі — з хворай на здаровую, як заўсёды ў вас. З нас яшчэ ворагаў хацелі зрабіць — ворагаў нашаму Гаспадару.

Бо Гаспадар, каму верылі да сабачага заставаліся й застанемся — гэта-ж і ёсьць ён, Народ. Наш крывічанскі народ.

Вам-жа «народ» — ізноў з тых «чартоў ня нашага Бога». Ваш «народ» — толькі вам палітычны прыём». А за ім, за «прыёмам» — хіба адно: нівэляваная тэрорам і страхам маса, пакорнае жывёльнае стада, часам можа — ускручаная й разьюшаная дэмагогіяй гарда.

І наймілейшы ваш «ідэал» — стары й ведамы: «Народ безмолвствует».

Такога «народу», што праўда, мы — ворагі.

Мы — ворагі тупое грамады-натоўпу, ворагі чэрнядзі, і яна — наш вораг. Гэта ў нас — узаемна, і гэта — назаўсёды.

Наш паэта — наш правадыр ад нас усіх сказаў, і сяньня яшчэ раз паўторым:

Будзіць усіх і заклікаць — ці варта:
Няма з паловы й ня было карысьці...
Рады гартуйце сьмеласьцю упартай!
Ой, вечар, вечар — ды не вечарыся!

І мы абміналі заўсёды й заўсёды абмінём яе, тую бескарысную палову. Навет калі яе й больш будзе. Мы не паклонімся ёй, цёмнай і цемнатворнай, як-бы там не «вечарылася».

Тады мы ня чулі (вы не давалі нічога нам чуць), як добра сказаў пра гэта адзін чалавек: «Із сту дурняў ня зробіш аднаго разумнага».

Але-ж самі чулі гэта, «таварышы» — бальшавікі? Чулі — ваш улюбёны закон— «пераход колькасьці ў якасьць» — тут яўна хібіць. Дурні навет у масе не разумнеюць, гэта-ж кажнаму — як двойчы два-чатыры.

Зрэшты, гэта ведалі, ведаюць добра й вашыя жыдкі. Ці чулі вы іхны ўжо — выразна іхны — «антысавецкі» анэкдот? Калі ня чулі — дык пацікаўцеся: якраз із галіны «ленінска-сталінскае нацыянальнае палітыкі»:

«Адзін грузін — чысьцільшчык ботаў. Два грузіны — лезгінка. Тры грузіны — палітбюро.

Адзін жыд — «кустар-адзіночка». Два жыды — каапэратыў. Тры жыды — апазыцыя.

Адзін расеец — дурань. Два расейцы— два дурні. Тры расейцы — тры дурні».

Бачыце — навет паводля самых марксавых нашчадкаў не заўсёды колькасьць пяройдзе ў якасьць..

Але-ж, «із сту дурняў ня зробіш аднаго разумнага, і сто баязьліўцаў ня прыймуць ніколі гэраічнае пастановы.» Вы-ж ведаеце — гэта сказаў Адольф Гітлер.

Ага, прабачце, мамэнцік — а як заглядаецеся на «народ» вы, даражэнькія сяброчкі — «культурнікі»?...

О, ня так, троху ня так і троху ня гэтак.

Для вас «народ» заўсёды зь вялікае літары і заўсёды — Бог. Для вас «народ»— гэта той «нерукатворны абраз», перад якім млелі былі калісь расейскія народнікі. Той «народушко», багавіць і пакланяцца якому заклікаў адзін час навет сам Максім Горкі — тады «богабудаўнічы», а пазьней— бязбожнік.

Можна сабе ўявіць, якімі вялікімі зрабіліся былі вашыя «культурныя» вочы, даражэнькія сяброчкі, чытаючы ўсё тое пра масу й дурняў, што проста і «груба», верныя сабе, напісалі мы тут кагадзе.

Дарма, перажывеце гэта спакойна. І ведайце: для нас народ — ня Бог і ня кумір. Для нас народ — толькі Гаспадар.

Бог — над ім.

Ды наш Гаспадар — Разумны. Няўхільныя «сто дурняў» тут нічога не зьмяняюць, навет каб іх і больш набралася. Бо дурань ня бывае гаспадаром, і хто дурнее — перастае быць ім таксама. Такім — два шляхі: ці ў пустадомкі, ці ў парабкі. З такімі на гэткіх шляхох — навет і з большай колькасьцяй — разьвітацца ані ня шкода. «Будзіць і заклікаць», «вразумлять» іх — таксама дарэмны клопат.

... Але, наш Гаспадар — Разумны сваім адвечным, адпрыродным і ў безьлічы выяваў ды праяваў зафіксаваным Розумам. Разумам нацыі.

Больш таго: гэты Розум — і ёсьць-жа наш Гаспадар.

## ЛІСТОК ТРЭЙЦІ

### А як было ў Заходняй?

... «Лісты да сабакі» былі перадрукаваныя, хоць і куды пазьней, у Заходняй Беларусі (гл. часапіс «Калосьсе»).

Якую рэакцыю выклікалі, якое разуменьне знайшлі яны там? Аб гэтым, апрача вельмі-вельмі агульнага, дасюль нам нічога ня ведама.

Мы ведаем, што і ў Заходняй Беларусі былі свае бальшавікі. Цяпер мы ведаем навет і ўзвычаены там назоў — мянушку для іх: «комікі».

Былі і «камунізуючыя» — тыя самыя «непартыйныя бальшавікі». А як-жа з вашым братам, даражэнькія сяброчкі ў беларушчыне — «меншавікі», «культурнікі»?

О, было —гэтых дык напэўна было! Не магло ня быць у дзяржаве, дзе кіраваў народ, аддаўна й шырака знаны сваім «културным» далікацтвам. Народ, у якога на ўсім вонкавым захоўваньні выпісаны лёзунг заўсёднае гатовасьці: «Całuję rączki i padam do nóg». (Гэта дарма, што падыспадам — і другая гатовасьць: уваткнуць найглыбей найвайстрэйшую шпільку, падкаціць найямчэй найвялікшае сьвінства....

Не цалаваць у «rączki» і ня падаць «do nóg» — ужо навет «някультурна» і «груба», «завойстра і зарэзка». Навет у лаянцы не абудзецца чалавек бяз «культурна» — далікатнага «пана»: «Pan jesteś gałganem! — «A pan jesteś... z krowy synem!» А каб выштырыць за дзьверы — пашанотная формула: «Nie wypędzam panią ale proszę precz»...

І гэта-ж усё было ў узгадаваньні, гэта ўсё насілася ў атмасфэры, гэта ўсё не магло не асесьці хоць драбочкамі, і на нашых людзях. Гэта ўсё не магло не «задэцыдаваць», кажучы модным там дзівацкім слоўцам, не магло ня спрыяць асабліваму культываваньню тыпа «культурніка» — «меншавіка».

І ён, пэўна-ж, выкультываваўся, а мо навет і вырафінаваўся.

Як мог успрыняць такі тып «Лісты да сабакі»?

І ён, пэўна-ж, мусіў пачувацца ня менш шакаваным. Толькі яму была другая магчымасьць — магчымасьць шкадаваць нас, няшчасныя ахвяры бальшавізму, даведзеныя да стану сабачага адчаю, ад якога— і ўсе якасьці «грубасьці», «некультурнасьці».

Ну, а не шкадаваць — але **зразумець** — ці спрабаваў хто? Зразумець і выказаць гэтае зразуменьне?

Бо ўжо што-што, а выказаць зразуменьне там зусім вольна можна было. Ужо хоць-бы таму, што яно не магло ня быць першым чынам сваім не антыбальшавіцкім.

Можа мы блага шукалі, але такога выказанага зразуменьня так і дасюль не знайшлі.

А тым часам ня толькі зразумець, а і стаць на варце «роднага ганку» — і ў Заходняй быў ня меншы мус, калі яшчэ ня большы. Большы хоць-бы таму, што прынамся на два фронты: і ад «людзей вуліц», вуліц варшаўскіх, і ад людзей зь нявыжытым духам традыцыяў і ўспамінаў «Невского проспекта», «Исаакия» ды іншых «единых и неделимых» ці «единоверных» атрыбутаў. «Комікаў»-жа ня будзем браць і ў лік.

І пэўна, нехта мусіў стаяць і на варце, на нашай сабачай варце. Мусіў пілнаваць і кідацца, і браць за горла.

Ці ставала ткі яму на гэта «грубасьці» й «някультурнасьці»?

... Сыйшлі із сцэны «комікі, адыйграўшы сваю — хто камэдыю, а хто трагедыю.

Засталіся «меншавікі» — «культурнікі», далікатныя паночкі (ну, калі ўжо не «паночкі, дык «грамадзяне» — толькі каб, Божа крый, не «спадары»!). Цяпер гэта зь імі часта бывае камэдыя (хто ня ведае, а хто ведае — ніякае камэдыі...).

Для іх «ворага кажны за плечы браў сьмела» — недасяжны ідэал, і то — сівое мінуўшчыны, а ня будучыні навет...

... Дзе вы, сябры ў безагляднасьці і зацятасьці — адгукнецеся!

... Мала нас, і сяньня мала нас што бязь белых рукавічак, голымі рукамі...

Дарма, пачакаем яшчэ: пабольшае, напэўна пабольшае!

Ня можа не пабольшаць!

## ЛІСТОК ЧАЦЬВЕРТЫ

### Нашая часьць

Жывучы ўсяго пабачыш —
І даліны і узвышшы.
Той жыве, як сын сабачы,
Тым і дзеці чорт калыша.
Неаднолькавыя дзеці.
Неаднолькава і шчасьце.
Так спрадвеку ўсё на сьвеце
Падзяляецца на часьці...—

Пісаў адзін наш паэта.

Так і запраўды спрадвеку вядзецца. І можа нашую часьць — часьць гэных «сабачых сыноў» — мы ня самі сабе абралі тады, а выпала яна нам і запраўды ў дар ад самое долі.

Ды дарма, ці так, ці ня так. Мы несьлі й нясем, панясем гэтую сваю часьць, не адступаючы ад яе і не наракаючы, ня жалячыся на ейны цяжар.

Хай ужо хоць гэта ды будзе наша.

Абразы мы й цяпер не баімося. Хай яшчэ і яшчэ абзавуць сабакамі, гэта й цяпер — толькі гонар нам, верным і зацятым да самазабудзі служкам свайго Гаспадара.

А зуб наш яны ўжо пакрысе дазнаюць на сабе. І яшчэ дазнаюць. У гэтым ужо — нашае глыбокае задавальненьне.

Чулі, як нядаўна прарвалася з таго боку? —

**— Не кладзі сабаку пальца ў рот — адкусіць!**

Правільна, панове-гаспада-таварышчы, як ніколі мо правільна! Не кладзеце гэтак вашых пальцаў, не падтыцквайце вашых далікатных пальчыкаў (з тых, пра якія пяецца: «ваши пальцы пахнут ладаном»), ці — высокім стылем — «не влагайте перстов», ведайце бо, з кім маеце справу!

А калі думалі даняць ці «зрэзаць» нас гэтым «сабакам»», дык — як бачыце самі, давялося рашчараваць вас крыху.

І наагул, ведаеце-ж — «куравыя вочы дыму не баяцца». А нашыя закурэлі не ад таго, так мілага вам кадзільнага фіміяму хвалы, а ад страшэннага куродыму вамі-ж распаленага нялюдзкога пекла.

# З беларускага жыцьця ў Нямеччыне

### «СІЛА Ў САЛІДАРНАСЬЦІ»

Нядаўна адбыўся сход сяброў Гуртка Беларускага Камітэту Самапомачы ў Чэлядзі (Верхняя Сілезія). Асноўнай часткай сходу быў даклад кіраўніка Гуртка сп. М. Жывіцы на тэму «Сіла ў салідарнасьці».

Дакладчык падкрэсьліў адвечную праўду, што бяз салідарнасьці і згуртаваньня ўсіх сяброў аднае нацыі, немагчымым ёсьць здабыцьцё свабоды і незалежнасьці народу. Салідарнасьць, якая вынікае з пачуцьця сваяцтва крыві, супольнасьці мэтаў і імкненьняў, зьяўляецца непераможнай сілай у змаганьні за лепшае заўтра народу. Рост нацыянальнае сьведамасьці беларусаў і супольная іх воля да аднаўленьня свае дзяржаўнасьці, зьяўляецца магутным імпульсам, які гуртуе ўсіх сяброў нашае нацыі, як на бацькаўшчыне, так і за яе межамі, і скіроўвае ўсе іхныя натугі да супольнае працы на карысьць Беларусі.

Пасьля дакладу была прынята рэзалюцыя, у якой сабраныя сьцьвердзілі поўнае зразуменьне факту ўтварэньня Беларускае Цэнтральнае Рады і арганізацыі Беларускае Краёвае Абароны. У рэзалюцыі гаворыцца, што і беларусы на чужыне заўсёды гатовыя самаахвярна стаць на заклік Прэзыдэнта Беларускае Цэнтральнае Рады, каб выканаць свой абавязак перад Бацькаўшчынай і Народам.

Сябры Гуртка зрабілі дабравольную складку на «Фонд дапамогі сем'ям жаўнераў БКА» у выніку якой сабрана 47 марак.

У другой частцы сходу старшыня сп. М. Жывіца зрабіў справаздачу з дзейнасьці гэтага гуртка, а пасьля адбыліся выбары старшыні і заступніка. Сабраныя аднагалосна выбралі на старшыню Гуртка сп. М. Жывіцу, які і дагэтуль быў старшынёю, а на ягонага заступніка сп. Адварда Пучэля.

Сход закончыўся магутным клічам чам «Жыве Беларусь!» і адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

### ДОБРЫ ПРЫКЛАД

Рэдакцыя Раніцы» атрымала ліст ад аднаго з беларускіх уцекачоў, які ў сувязі з набліжэньнем фронту, вымушаны быў разам зь іншымі беларусамі ўцячы ад бальшавіцкае пагрозы. Яны апыніліся ў Нямеччыне, каля Ліцманштату. З глыбокай удзячнасьцю яны пішуць пра апеку і дапамогу, якую атрымалі з боку Ліцманштацкага Аддзелу Беларускага Камітэту Самапомачы ў Нямеччыне. Стараньнем старшыні і сяброў Аддзелу, уцекачы гэтыя атрымалі вопратку, абутак, працу і парады юрыдычнага характару. Аддзел праводзіў таксама сярод іх і культурна- асьветную працу.

Сардэчнасьць, зразуменьне і дапамога ў бядзе, якую атрымалі тут нашыя ўцекачы, запраўды ўзварушыла іх і на заўсёды пакінула ў глыбіні іх сэрцаў вялікую ўдзячнасьць.

### БЕЛАРУСЫ З ВАКОЛІЦАЎ НЮРНБЭРГУ!

**Група беларусаў хоча арганізаваць гурток Беларускага Камітэту Самапомачы ў Нюрнбэргу і з гэтай мэтай просіць сяброў-беларусаў, якія жывуць у гэтых ваколіцах падаць свае дакладныя адрысы.**

**Карэспандэнцыю кіраваць на адрыс: Janka Baudziej, Fürth in Bayern, Hirschenstraße 19, bei Eberl.**

### ДА СЯБРОЎ БЭРЛІНСКАГА АДДЗЕЛУ БКС

**Урад Бэрлінскага Аддзелу Беларускага Камітэту Самапомачы просіць усіх сяброў Аддзелу, якія жывуць у гор. Бэрліне і бліжэйшых ваколіцах, у найхутчэйшым часе падаць свае дакладныя адрысы.**

**Адрыс Камітэту: Weißruthenisches Selbsthilfekomitee, Berlin NW 21, Bredowstraße 8.**

## Адказы аўтарам

**Аўтару вершу «Быў наш татачка так мілы»** — Вельмі кранула нас Вашае простае й шчырае апавяданьне пра змаганьне за родную мову й школу. Нажаль у вершы яно яшчэ Вам не ўдалося, а галоўнае, не маглі-б яго выкарыстаць, бо на ім зусім няма прозьвішча й адрысу таго, хто пісаў (гэтыя весткі заўсёды патрэбныя для рэдакцыі, хоць друкавацца можаце й пад выдуманымі прозьвішчамі).

**Д. Пучынскаму.** — прысланыя «лірыкі» напэўна друкавацца ня будуць: «Закаханы» (таксама абрывак, бяз думкі й суцэльнага вобразу), «Крыгі ледзяныя» (і пасьля пераапрацаваньня, галоўная думка засталася і занадта агульна ведамай, і блага выражанай — «людзі... У нябыт ляцяць», засталіся русіцызмы — «друг дружку», «друг друга» — трэба «адзін аднаго», «увярху» — трэба «угары» ці «ўверсе»; больш працаваць над гэтым вершам ня варта), «Дуб» (зусім слаба апрацаваны). Рэшту паступова пабачыце ў друку, некаторыя — у моцна пераапрацаваным выглядзе. Добра было-б, каб Самі паспрабавалі выясьніць сабе, чым выкліканая тая ці іншая папраўка. Вынікі гэтае працы маглі-б прыслаць нам, і мы маглі-б памагчы Самім у далейшай працы над вершамі. Мы здаволеныя, што нашыя парады ўжо дапамагаюць Самім, як Самі пішаце. Што-ж да «халоднасьці», дык мы ўважаем, што найлепшай цяплінёю для маладога аўтара павінен быць факт надрукаваньня ягонага вершу, асабліва, калі да гэтага бывае яшчэ прыкладзена ці мала працы каго-небудзь із рэдакцыі над ягоным апрацаваньнем.





### ШУКАЮЦЬ

**Сейферт Андрэй** сын Андрэя з Растова над Донам шукае жонку **Анастасію** дачку Ілію **Сейферт** і просіць адгукнуцца **Віктора і Галену Бутылкіных** на адрыс: Hainberg, Post Colditz, Sachsen, Heilstätte für Volksdeutsche Umsiedler B. 20.


Hauptschriftleiter und für den Inhalt verantwortlich: Stanislaŭ Hrynkiewitsch, Berlin NW 21, Stromstr. 67.
Druck: Gebr. Radetzki, Berlin SW 68, Friedrichstr. 16.